©ПАЛІТЫЧНАЯ СФЕРА
ISSN 1819-3625 № 21, 2013

Сяргей Астанковіч

# Анталогія палітычнай думкі пасняховага суседа

*Літоўская палітычная думка, канец XIX – пачатак XX стагоддзя (2013).*



*Homines historiam ignari semper sunt pueri*
*Людзі, якія не ведаюць гісторыі, назаўсёды дзеці*

Выхад у свет анталогіі "Літоўская палітычная думка" (канец XIX – пачатак XX стагоддзя) стаў прыемнай навінай для ўсіх, хто цікавіцца гісторыяй Беларусі, Літвы, Цэнтральна-Усходняй Еўропы і нацыянальнымі рухамі ў гэтай частцы свету.

Трэба адзначыць, што, нягледзячы на геаграфічную і гістарычную блізкасць, паўночна-заходняя суседка ў згаданы час для беларусаў застаецца, у вялікай ступені, terra incognita. Моўны бар'ер і слабая зацікаўленасць айчынных навуковых устаноў гэтай тэмай становяцца моцнай перашкодай для кожнага даследчыка. Таму імёны Ёнаса Басанавічуса ці Мацеюса Валанчуса, назвы "Aušra" і "Vilniaus žinios" з'яўляюцца для многіх пустым гукам. Толькі зварот да польска-, руска- ці англамоўнай літаратуры дазваляе, у нейкай ступені, вырашыць праблему.[1]

У кнізе маецца кароткі нарыс пра развіццё літоўскай палітычнай думкі ў XIX стагоддзі аўтарства Томаша Блашчака. У ім коратка распавядаецца пра важнейшыя фактары, якія паўплывалі на яе станаўленне і развіццё. Беларускім навукоўцам асабліва важна, на нашу думку, звярнуць увагу на звесткі пра дзве ўнікальныя з'явы ў гісторыі нашай суседкі, якія ў значнай ступені паўплывалі на паспяховасць літоўскага патрыятычнага руху ў цэлым – таварыствы цвярозасці (падчас існавання ахоплівалі да 80 % насельніцтва Ковенскай губерні) і рух кніганошаў (амаль 40 гадоў забяспечвалі літоўцаў друкаваным родным словам). Тым больш, што абедзве з'явы звязаныя і з айчыннай гісторыяй – літоўскія кантрабандысты пераносілі і беларускія кнігі (Ластоўскі, 1926: 106; Туронак, 2006: 29), а таксама кнігі для літоўцаў на Беларусі (Унуковіч, 2006: 39). Існавалі ў нас і масавыя таварыствы цвярозасці.[2] На жаль невядома, у якой ступені яны паўплывалі на сацыяльныя працэсы ў Беларусі.

Анталогія ахоплівае 28 тэкстаў, якія з'явіліся паміж 1846 і 1915 гадамі, прычым пераважная большасць з іх (24) была створана на мяжы XIX і XX стагоддзяў, калі і развіваўся літоўскі нацыянальны рух. Дакументы змешчаны ў пяці раздзелах. У прынцыпе, гэты падзел адпавядае класічнай схеме Міраслава Гроха – фазы А, В і С нацыянальнага руху (Хрох, 2002: 125).

Першыя дакументы прысвечаны патрабаванням літоўцаў захоўваць і вывучаць уласную культуру. Сярод

---

1 Для знаёмства з гісторыяй Літвы XIX – XX стагоддзяў можна выкарыстаць наступныя даследаванні: Römer 1908; Wasilewski 1912; Ochmański 1965; Ochmański 1990; Łossowski 2001; Aleksandravičius, Kulakauskas 2003; Rachuba і інш., 2009. Таксама можна прыгадаць выдадзеную на некалькіх мовах найноўшую: Eidintas, Bumbauskas, 2013. З беларускіх даследаванняў гэта адпаведныя раздзелы пра Літву і літоўцаў у: Терешкович, 2004. Таксама цікавая частка работы (Hroch, 1985).

2 Больш пра рух цвярозасці ў кнігах: Brensztejn, 1918; Gieczys 1935.

іншага, увагу беларускага даследчыка прыцягвае і выкарыстаны літоўцамі славуты эпіграф “Загляне сонца і ў наша ваконца” (с. 71), які асабіста мне падаваўся прыдуманым кімсьці з беларускіх адраджэнцаў XIX стагоддзя.

Другая частка прысвечана літоўскаму друку і ідэі літоўскай нацыі. Цікава, што і тут у літоўцаў шмат падабенстваў з намі. Напрыклад, “Aušra” пачала выходзіць толькі ў 1883 годзе. Нагадаю, што наш “Гоман” выйшаў у 1884 годзе. Аднак калі літоўская газета аказала вялікі ўплыў на патрыятычную інтэлігенцыю, то піцерскі часопіс так і застаўся малавядомым і стаў набыткам даследчыкаў толькі праз 50 гадоў. Калі нешматлікія літоўскія інтэлектуалы з зайздроснай актыўнасцю апрацоўвалі нацыянальную ніву, беларусы “заснулі” на 20 гадоў і “абудзіліся” толькі на пачатку XX стагоддзя. За гэты час літоўцы ўжо стварылі адзін з найбольш паспяховых рухаў у Расійскай імперыі. Вацлаў Ластоўскі ў 1910 годзе пісаў аб гэтым так: *“Што могуць зрабіць два мільёны грамадзян, авеяных адным духам, можам бачыць хаця-бы з развіцця літоўскай прэсы (газет). Усяго выходзіць цяпер 43 літоўскія газеты, з гэтых у Расіі 16, у Нямеччыне 8, у Англіі 2, у Амерыцы 17”* (Włast, 1910: 190).

Беларускія тэксты, створаныя ўжо ў пачатку XX стагоддзя, паказваюць, што нашы нацыянальныя дзеячы ўважліва сачылі за літоўцамі і, у вялікай ступені, выкарыстоўвалі іх напрацоўкі ва ўласных мэтах. Той жа Ластоўскі пісаў: *“Літвіны шчыра працуюць на нацыянальнай глебе і праз трыццаць гадоў, лічучы ад пачатку нацыянальнага руху, зрабілі многа; нам, беларусам, шмат чаму можна навучыцца, гледзячы на працу літвіноў...”* (Włast, 1910: 189). Можна ў гэтым плане ўзгадаць пра “Нашу долю”, якая была блізкай па змесце да літоўскай “Naujoji Gadynė” (бел. “Новая эра”). І прыклады такіх перайманняў, а то і выкарыстання літоўскіх арганізацый у сваіх мэтах, можна прыводзіць безліч.



**Абраз, які выкарыстоўваўся літоўскімі брацтвамі цвярозасці. Выява ўзята з дадаткаў да выдання (Gieczys, 1935).**

Анталогія дазваляе нам праводзіць у гэтым плане карысныя параўнанні. Возьмем, напрыклад, паведамленне аб выхадзе “Vilniaus žinios”: *“Абраўшы для сябе... мэту, ...рэдакцыя... не прысвячаем часопіс нейкай адной частцы нашага грамадства, а жадаем, каб кожны літовец, які імкнецца да светлага і прагне зразумець жыццё свайго краю і свету ў цэлым, мог знайсці на старонках часопіса мілы і чаканы для сябе свет. Таму мы робім наш штодзённік не для пэўнага саслоўя, не для якой-небудзь часткі, а цалкам для ўсяго нашага грамадства”* (с. 87). Па-




**Рэдакцыя “Нашай долі” выкарыстоўвала для распаўсюджвання беларускіх выданняў літоўскую кнігарню Марыі Пясецкай-Шляпеліс. Выява ўзятая з першага нумара беларускай газеты.**

раўнаем гэта з праграмным патрабаваннем рэдакцыі “Нашай нівы”: *“Не думайце, што мы хочэм служыць толькі ці панам, ці адным мужыкам. Мы будзем служыць усяму беларускаму скрыўджанаму народу... Ведайце добра, што «Наша ніва» – газета не рэдакцыі, а ўсіх беларусоў, і ўсіх тых, хто ім спагадае. Кожны мае права быць выслуханым на страніцах нашай газеты і кіраваць ёю, каб толькі было разуменне. Мы з сваей стараны будзем старацца, каб усе беларусы, што не ведаюць, хто яны ёсць, – зразумелі, што яны беларусы і людзі, каб пазналі свае права і памаглі нам у нашай рабоце”* (Paczynajuczy.., 1906: 1).

Часткі III і IV прысвечаныя пачаткам фарміравання літоўскай нацыянальнай свядомасці і першым літоўскім палітычным партыям. Гэта праграмы Літоўскай дэмакратычнай партыі, нацыянальнай партыі літоўскіх дэмакратаў і Літоўскага аб’яднання хрысціянскіх дэмакратаў. На вялікі жаль, не знайшлося месца для праграмы літоўскай сацыял-дэмакратычнай партыі, з якой прыклад брала айчынная БСГ.

У апошнім, V раздзеле практычна ўсе дакументы распавядаюць пра падзею, якая паказала значную сілу літоўскіх нацыянальных дзеячоў – Вялікі віленскі сойм 1905 года. На яго сабралася каля 2 000 чалавек (у тым ліку з паветаў, дзе беларусы складалі большасць). Справа ў тым, што яшчэ ў часы “Aušra” налічвалася каля 250 літоўскіх актывістаў. І ўсё гэта дзякуючы неверагоднай актыўнасці інтэлігенцыі, якая, нягледзячы на сваю маналікасць, змагла дасягнуць масавай падтрымкі і мабілізаваць розныя сацыяльныя слаі літоўскага грамадства для дасягнення мэтанакіраваных палітычных дзеянняў.

Апошняй у анталогіі змешчана дэкларацыя незалежнасці Літвы ад 16 лютага 1918 года, якую можна лічыць падсумаваннем літоўскага нацыянальнага адраджэння канца XIX – пачатку XX стагоддзя. Думаецца, мала хто ў Беларусі ведае, што друк гэтага дакумента ў газеце “Lietuvos aidas” (бел. “Літоўскае рэха”) быў ажыццёўлены вялікім сімпатыкам беларускай справы панам Марцінам Кухтам. І што за гэта яму давялося заплаціць зняволеннем у нямецкай турме (Iš laiko.., 2011: 26).

Выданне цяжка крытыкаваць за незабяспечанасць з тэхнічнага боку. Акрамя звароту ад укладальніка, у якім, між іншым, агаворваюцца прынцыпы, тэрміналогія і тэхнічныя дэталі выдання, таксама ёсць і карысныя дадаткі, што змяшчаюць звесткі пра асоб, геаграфічныя аб’екты і ар-

ганізацыі, карта мясцовасцей, якія згадваюцца ў кнізе. Таксама ёсць імянны і геаграфічны паказальнік, што дазваляе прасцей арыентавацца ў тэкстах, фотаздымкі некаторых літоўскіх дзеячоў і выданняў (Терешкович, 2004: 188).

Відавочна, велізарную працу давялося зрабіць перакладчыкам, якая ўскладнялася пэўнымі тэхнічнымі момантамі, адсутнасцю той жа нацыянальнай традыцыі пры транслітарацыі літоўскіх імёнаў на беларускую мову (с. 11). Тым не менш, як нам падаецца, не заўсёды ўдалося пазбегнуць пэўных спрэчных момантаў пры перакладзе. Так, для абазначэння паняцця “кафедральны сабор” паслядоўна ўжываецца наватвор “Кафедра”, адначасова выкарыстоўваюцца такія тэрміны як “адкольніцтва” і “раскольніцтва”, “бажніца” і “касцёл”, “пробашч” і “настаяцель”, неабгрунтаваныя паланізмы “закрэнты” (с. 50), “менш-больш”, “плашчыні” (с. 19). Таксама акрамя слова “летувінінкі” варта было б ужываць больш зразумелы для беларускага чытача тэрмін “прускія літоўцы”.

У цэлым кніга атрымалася карысной. Думаецца, што адкідаць яе пры знаёмстве з адным з самых загадкавых і парадаксальных нацыянальных рухаў Цэнтральна-Усходняй Еўропы было б недаравальнай памылкай. Таксама трэба спадзявацца, што гэта будзе не апошняе выданне інстытута на тэму гісторыі Літвы і нацыянальнага руху ў гэтай краіне.

**Літаратура, якая згадваецца ў рэцэнзіі**


1. Ластоўскі, Вацлаў (1926). “Беларускія (крыўскія) друкі ў Тыльзіце”, *Крывіч*, № 1.
2. Hroch, M. (1985). “A national movement of the belated type: the Lithuanian example”? in *Social preconditions of national revival in Europe. A comparative analysis of the social composition of Patriotic groups among the smaller European Nations.* Cambridge: University Press.
3. Терешкович, Павел (2004). *Этническая история Беларуси XIX – начала XX вв.: В контексте Центально-Восточной Европы.* Минск: БГУ.
4. Туронак, Юры (2006). “Вакол абставінаў публікацыі «Дзядзькі Антона»”, у *Мадэрная гісторыя Беларусі.* Вільня: Інстытут беларусістыкі.
5. Унуковіч, Юрый (2006). “Літоўцы ва Усходняй Беларусі ў канцы XIX – пачатку XXI стагоддзя”. *Беларускі гістарычны часопіс,* № 9.
6. Хрох, М. (2002). “От национальных движений к полностью сформировавшейся нации: процесс строительства наций в Европе”, в *Нации и национализм.* Москва: Праксис.
7. Alesandravičius, E. i Kulakauskas, A. (2003). *Pod władzą carów. Litwa w XIX wieku.* Kraków: Universitas.
8. Brensztejn, M. (1918). *Bractwa trzeźwości na Litwie, głównie w djecezji Żmudzkiej 1858–1863.* Wilno.
9. Eidintas, A., Bumbauskas, A. i inni (2013). *Historia Litwy.* Wilno: Eugrimas.
10. Gieczys, K. (1935). *Bractwa trzeźwości w diecezji żmudzkiej w latach 1858–1864: dysertacja doktorska.* Wilno.
11. Iš laiko gelmės – trakiniečiai. Biografijų kronika (2011). *Pasaulio anykštėnas. Pasaulio anykštėnų bendrijos almana-chas kiekvienam, laikančiam save anykštėnu,* № 1.
12. Łossowski, P. (2001). *Litwa.* Warszawa: Trio.

13. Ochmański, J. (1965). *Litewski ruch narodowo-kulturalny w XIX wieku (do 1890 r).* Białystok.
14. Ochmański, J. (1990). *Historia Litwy.* Wroclaw etc.: Ossolineum.
15. Paczynajuczy wydawać biełaruskuju hazetu… (1906). *Nasza niwa,* № 1.
16. Rachuba, A., Kiaupienė J., Kiaupa, Z. (2009). *Historia Litwy: dwugłos polsko-litewski.* Warszawa: DiG.
17. Römer, M. (1908). *Litwa. Studium o odrodzeniu narodu litewskiego.* Lwów: Polskie towarzystwo nakładowe.
18. Wasilewski, L. (1912). *Litwa i Białoruś. Przeszłość-teraźniejszość-tendencje rozwojowe.* Kraków: Spółka nakładowa "Książka".
19. Włast (1910. "IV Litoūskaja wystaūka ū Wilni", *Naša niwa,* № 12.